Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 370.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Аўторак, 19 траўня 1998 г. № 51 Кошт свабодны

**СВАБОДА**

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Клінтан павіншаваў беларускіх лаўрэатаў

### *Хартыя-97, Хельсінкскі камітэт і прафесар Пастухоў атрымалі прэміі па 20 тысяч долараў*

***«У ліку 50-ці арганізацыяў і асобаў вам уручаецца сумесная прэмія ЗША і Еўрасаюза за развіццё дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці»*** **— такімі словамі пачынаецца віншаванне Біла Клінтана, Тоні Блэра і Жака Сантэра, адрасаванае Хартыі-97, Беларускаму Хельсінкскаму камітэту і прафесару Міхаілу Пастухову.**

Як мы ўжо паведамлялі, урад ЗША і Еўрасаюз прысудзілі ім прэміі памерам 20.000 долараў кожная. Учора лаўрэатаў запрасілі ў амбасаду Вялікабрытаніі, дзе пасол Джэсіка Пірс і яе амерыканскі калега Дэніэл Спекхард уручылі ўзнагароды. Праўда, на цырымоніі прысутнічалі не ўсе лаўрэаты. Старшыня Хельсінкскага камітэта Таццяна Працько ў гэты час знаходзілася ў Лондане, куды яе запрасілі ў ліку шасці лаўрэатаў, якім прэміі будуць уручаць асабіста прэзідэнт ЗША і прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі разам са старшынём Еўрапейскай камісіі Жакам Сантэрам.

Гэтая прэмія была заснаваная Злучанымі Штатамі і Еўрасаюзам у траўні мінулага года, прэміяльны фонд складае 1 млн. долараў. 50 сёлетніх лаўрэатаў былі выбраныя са 140 кандыдатураў з краінаў Усходняй Еўропы, СНД і Манголіі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Мірон вывесіў сцяг над Віцебскам

**Легендарны Мірон ажыццявіў беспрэцэдэнтную акцыю: сярод белага дня ён вывесіў бел-чырвона-белы сцяг над будынкам Віцебскага аблвыканкама.**

Прычым, акцыя адбывалася пры шматлікіх сведках і здымалася на відэаплёнку (гэты сюжэт быў паказаны тэлекампаніяй НТВ). Чырвона-зялёны сцяг Мірон забраў з сабою. Прыкладна ў 15 метрах ад флагштока ён прымацаваў плакат *«Асцярожна — Мірон!»*, а каля флагштока пакінуў запіску: *«За ўсіх палітвязняў Беларусі. Мірон»*. Уся акцыя заняла 7 хвілінаў 42 секунды. Адбылося гэта ў 10:00 раніцы 14 траўня — акурат у гадавіну сумнавядомага рэферэндуму. Цікавая была карціна: над будынкам віцебскай «вертыкалі» лунае бел-чырвона-белы сцяг. Праз гадзіну гэта заўважылі і чыноўнікі. «Крамольны» сцяг знялі, свой — павесілі. Ахвяраў і затрыманых не было.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Яшчэ адзін скачок долара

**За мінулы тыдзень курс продажу долара на «чорным» рынку Мінска дасягнуў 55 тысячаў рублёў.**

Калі 11 траўня «ценявыя» мяняла куплялі долар па 52.000 рублёў і прадавалі па 53.000, то ўчора каціроўкі ўжо складалі 53.000—55.000 рублёў. Па прагнозах валютчыкаў, на гэтым тыдні курс хутчэй за ўсё стабілізуецца на дасягнутым узроўні, які, дарэчы, адпавядае максімальным значэнням курсу падчас так званага сакавіцкага валютнага крызісу. Зрэшты, як паказваюць назіранні, перыяд з 9-га па 16-е чысло кожнага месяца традыцыйна з'яўляецца неспрыяльным для беларускага рубля на валютным рынку. Да прыкладу, з 9 па 15 сакавіка гэтага года долар падаражэў на 7,9%, а з 9 па 15 красавіка — на 8,3%.

Тым часам у абменных пунктах курс куплі долара вагаецца ад 46.000 да 46.800 рублёў, а курс продажу роўны 47.000 рублёў, што ніжэй за сярэдні «ценявы» курс на 16,7%. Той, хто ў адпаведнасці з патрабаваннямі закона прадае валюту ў банку, у параўнанні з «чорным» рынкам траціць як мінімум 720 тысячаў рублёў на кожных 100 доларах.

*БелаПАН*

## Талоны на дзіцячае харчаванне

### *У Магілёў вяртаюцца нормы 1994 года*

**Магілёўскі аблвыканкам увёў прадуктовыя талоны — на мясныя кансервы і малочныя сумесі для дзіцячага харчавання.**

Пры гэтым чыноўнікі спасылаюцца на Палажэнне аб часовых нормах продажу тавараў ад 7 ліпеня 1994 года № 248. Гэтым дакументам абмяжоўваецца продаж не толькі прадуктаў. Згодна з тымі ж нормамі 1994 года можна будзе купіць толькі адну пару абутку, адзін халадзільнік, тэлевізар і нават усяго адзін бінокль. У спісе значацца таксама мэбля, коўдры, мікракалькулятары, фотаапараты, піяніна, цацкі, парасоны, вучнёўскія сшыткі і шмат чаго іншага. Талоны на гэтыя тавары пакуль не ўведзены.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

### *Газ*

***У адпаведанасці з пагадненнем, падпісаным паміж прэзідэнтам «Газпрома» Рэмам Вяхіравым і прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам, у траўні—чэрвені Беларусь кожны дзень павінна выплачваць «Газпрому» 1 мільён долараў валютай.***

### *Супрацоўніцтва*

***Брэсцкую вобласць прынялі ў склад Еўрарэгіёна «Буг». Гэтая эканамічная зона была створаная ў 1995 г., у яе ўваходзяць Валынская вобласць Украіны і чатыры ваяводствы Польшчы — Замойскае, Люблінскае, Хелмскае і Тарнабжэгскае.***

## Беларускае – за мяжу, замежнае – беларусам

**Мінскі гарвыканкам і шэраг аблвыканкамаў прынялі рашэнне адпусціць цэны на імпартныя харчовыя тавары.**

Згодна з гэтай пастановай, гандлёвыя прадпрыемствы атрымалі дазвол гандляваць па рэальных рынычных коштах. У пералік тавараў (яны крыху адрозніваюцца, у залежнасці ад вобласці) увайшлі тытунёвыя вырабы, грэцкія крупы, рыс, цукар, алей, маргарын, гарбата, кава, цытрусавыя, садавіна, гародніна і нават бульба. Так што можна чакаць пашырэння асартыменту гэтых тавараў за кошт дарагой імпартнай прадукцыі.

Вядома, што імпартныя тавары зніклі з прылаўкаў хутчэй за іншыя. «Замарожванне» цэнаў пасля скачка долара ў сярэдзіне сакавіка зрабіла імпарт тавараў нявыгадным. Кошт імпартнага харчавання рэальна павялічыўся не менш чым на 20-30%, а дзяржаўныя органы адсачылі, каб рост цэнаў не перавысіў 2% у месяц. Вынікам гэтага стаў дэфіцыт.

Атрымоўваецца абсалютна недарэчная сітуацыя: беларускія прадпрыемствы стараюцца экспартаваць сваю прадукцыю (масла, каўбасы і г.д.) — там яны могуць прадаць па больших коштах, з выгадай для сябе. А ўзамен з-за мяжы нам будуць прывозіць дарагую бульбу, маргарын, гародніну і іншыя харчы.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Кангрэс у Варшаве

**У мінулыя выхадныя ў Варшаве адбыўся IV Міжнародны кангрэс «Свет пасля Чарнобыля», які сабраў каля 130 удзельнікаў з 12 краінаў свету. Асноўная тэма дыскусіяў — чарнобыльская трагедыя Беларусі ва ўмовах дыктатарскай улады.**




Папярэднія кангрэсы праходзілі ў Мінску. Але на гэты раз, як сказаў старшыня дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы, *«не было гарантыяў, што кангрэс удасца правесці ва ўмовах існуючага палітычнага рэжыму»*. Арганізатары кіраваліся адной мэтай — *«разарваць інфармацыйную блакаду і данесці праўду пра наступствы катастрофы да сусветнай грамадскасці»*. Месцам форуму невыпадкова была абраная Варшава. Менавіта ў Польшчы пачыналіся першыя гуманітарныя праграмы фонду «Дзецям Чарнобыля» пры падтрымцы дэпутатаў Сейма і лідэраў Салідарнасці. Затым апекавацца беларускімі дзецьмі пачалі дабрачынныя арганізацыі ў Нямеччыне, якія аб'ядналіся ў агульнагерманскую асацыяцыю «Дзецям Чарнобыля». Ёю кіруе 56-гадовы пастар з Мюнстэра Буркхард Хомайер.

Беларуская амбасада ў Варшаве байкатавала кангрэс і заявіла, што не мае да яго ніякага дачынення. Затое прыехаў Зянон Пазьняк, што было нечаканасцю для беларускіх удзельнікаў кангрэса. Лідэр БНФ выступіў з невялікай прамовай, заявіўшы, у прыватнасці, наступнае: *«Нашыя апаненты ў асобе дыктатара зрабілі Чарнобыль палітыкай, і мы не можам не прыняць гэты выклік. Іншая справа, што нашыя метады павінны быць гуманнымі і эфектыўнымі»*.

Пра метады лукашэнкаўскага рэжыму гаварылася шмат. Напрыклад, пра тое, што цяпер дзяржаўныя органы фактычна кіруюцца канцэпцыяй, згодна з якой тэрыторыі з узроўнем радыяцыі вышэй за 7 бэр лічацца прыгоднымі для жыцця і вытворчасці прадукцыі. Дзяржава прыватызуе каналы гуманітарнай дапамогі, пакінуўшы чарнобыльцаў на самавыжыванне. Прэзідэнтам Лукашэнкам аб'яўлена праграма «адраджэння чарнобыльскіх земляў». У выніку больш за мільён нашых грамадзянаў пазбаўленыя сацыяльнай дапамогі. Зянон Пазьняк лічыць, што кантакты з заходнімі ініцыятывамі павінны адбывацца *«не ў філантрапічнай, а менавіта ў гуманітарнай сферы, прычым у канкрэтным выяўленні»*.

На Варшаўскім кангрэсе выступілі вядомыя вучоныя. Дырэктар навукова-даследчага інстытута «Белрад» Васіль Несцярэнка распавёў, што дзяржава не ў стане абараніць насельніцтва Беларусі ад забруджанага харчавання. Галоўная дозавая нагрузка трапляе разам з малаком, з лясными ягадамі і грыбамі. Васіль Несцярэнка лічыць, што склалася *«катастрафічная сітуацыя»*. Ён сказаў, што прапанаваў ведамству Івана Keніка забяспечыць чарнобыльскія раёны хаця б сепаратарамі для ачысткі малака, пачаць вытворчасць прэпаратаў з яблычнага соку для выводзення радыенуклідаў, але дзяржава застаецца глухой да ініцыятываў вучоных. Рэктар Гомельскага медінстытута Юрый Бандажэўскі на падставе сваіх даследаванняў абверг афіцыйную статыстыку міністэрства аховы здароўя, падкрэсліўшы, што *«здароўе дзяцей пагаршаецца»*, назіраецца паталогія жыццёва важных органаў, у тым ліку шчытападобнай залозы. Медыкі канстатуюць рэзкі рост анкалагічных і сардэчных захворванняў, аслабленне імунітэту. Дарэчы, Васіль Несцярэнка і Юрый Бандажэўскі адмовіліся падпісаць палітычную рэзалюцыю кангрэса, яны захацелі застацца «па-за палітыкай».

Дырэктар цэнтра «Агранаўка» прафесар Іван Нікітчанка распавёў пра даследаванні жывёлы, у якой назіраюцца змяненні касцявога мозгу. Па словах вучонага, *«гэта толькі кветачкі, наперадзе будуць генетычныя змяненні, якія праявяцца і ў дзяцей»*. Прафесар Нікітчанка назваў *«злачынствам»* новую чарнобыльскую палітыку беларускіх уладаў. Ён заклікаў замежныя арганізацыі працягваць гуманітарную дапамогу, але не карыстацца паслугамі дэпартамента Кучынскага, які, па словах Нікітчанкі, накіроўвае дапамогу не людзям, а ў бюджэт.

Былы член Еўрапарламента Саланж Фернэ з Францыі падкрэсліла, што дабрачынныя арганізацыі хочуць перадаваць гуманітарную дапамогу адрасна, без пасрэдніцтва аўтарытарнага рэжыму.

На думку ўдзельнікаў форуму, Варшаўскі кангрэс «Свет пасля Чарнобыля» стаў кангрэсам салідарнасці. Па словах Генадзя Грушавога, *«праблема Чарнобыля становіцца праблемай правой чалавека. Мы павінны ратаваць дзяцей, нягледзячы на дыктатуру, якая знішчае іх нармальную будучыню»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Хіт сезона – «Партызанская»

**Марш пратэсту і рок-канцэрт у абарону палітзняволеных Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца арганізавалі ў чацвер у Мінску маладыя апазіцыянеры.**

Хоць акцыя насіла мірны характар і была дазволеная гарвыканкамам, улады трымалі спецназ напагатове — у дварах цэнтральнай часткі горада стаялі дзесяткі міліцэйскіх аўтобусаў і машын, а вакол дэманстрантаў тусаваліся опеpы ў цывільным. Тым часам маладафронтаўская калона (прыкладна паўтары тысячы чалавек) спакойна рушыла з плошчы Якуба Коласа да Купалаўскага скверу, які на нейкі час ператварыўся ў рок-канцэртную пляцоўку. У скверы колькасць удзельнікаў акцыі павялічылася прыкладна ўдвая. Пакуль музыканты рабілі апошнія прыгатаванні да канцэрта, да моладзі звярнуўся намеснік старшыні БНФ Сяргей Папкоў, які заклікаў юнакоў дамагацца вызвалення Севярынца і Шыдлоўскага. Падобныя заклікі гучалі і ў перапынках паміж выступамі гуртоў «Мясцовы час», «Уліс», «Новае неба» і N.R.M. На працягу дзвюх гадзінаў моладзь піла піва і прыемна бавіла час пад мелодыі вядомых кампазіцыяў старых беларускіх рокнрольшчыкаў. Найбольшае захапленне ў публікі выклікаў хіт Лявона Вольскага «Партызанская» — пра лясных братоў, якія любяць свой край і.хочуць ачысціць яго ад варожых зграяў.

Пасля канцэрта міліцыя затрымала двух чалавек — за тое, што яны неслі транспарант, які, на думку міліцэйскага начальства, зневажаў годнасць прэзідэнта. На наступны дзень за гэтае «злачынства» суд пакараў аднаго з апазіцыянераў пяцімільённым штрафам, а працэс над другім адбудзецца сёння.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Прыгнаў аўтамабіль – заплаці дзяржаве валютай

**Міністэрства фінансаў унесла ва ўрад прапанову, каб мытныя пошліны за замежныя аўтамабілі аплачваліся не ў беларускіх рублях, а ў цвёрдай валюце.**

*«Я буду настойваць на прыняцці такога рашэння»,* — заявіў міністр фінансаў Мікалай Корбут. Пры гэтым ён адзначыў, што аб павышэнні тарыфаў за растаможванне аўтамабіляў гутарка не ідзе. Аднак розніца паміж рэальным каціроўкамі валюты і курсам Нацбанка фактычна азначае павелічэнні мытных пошлінаў па меншай меры ў 1,5 раза.

*БелаПАН*

## Бясплатныя лекі для ахвяраў фашызму

**На сродкі евангелічнай царквы германскай зямлі Гесэн у Мінску адчыніцца бясплатная аптэка для былых вязняў фашызму.**

Як паведаміў старшыня беларускага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» Валянцін Герасімаў, над гэтым праектам фонд працуе са сваімі нямецкімі калегамі ўжо больш за тры гады. *«Мы спадзяемся таксама на дапамогу беларускіх фармацэўтычных прадпрыемстваў, бо па нашых законах былыя вязні павінны бясплатна забяспечвацца лекамі»,* — падкрэсліў кіраўнік фонду. Па ягоных словах, аптэка павінна адчыніцца 3 ліпеня — у дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. *«Пры пашырэнні асартыменту і нармальных пастаўках лекаў з Германіі мы плануем адкрыць такія аптэкі ва ўсіх абласных цэнтрах»,* — сказаў Валянцін Герасімаў.

Бясплатна атрымліваць лекі тут змогуць былыя вязні групы «А» — гэта значыць нявольнікі гета і фашысцкіх канцлагераў міжнароднай катэгорыі, сярод якіх Асвенцым, Бухенвальд, Майданэк, Равенсбрук, Маўтхаўзэн.

*БелаПАН*

## Грошы з Японіі прыходзяць праз Жэневу

**Сусветная арганізацыя здароўя (САЗ) і японскі фонд Сасакавы выдзеляць 1 мільён долараў на ажыццяўленне ў Беларусі праекта па паляпшэнню дыягностыкі і лячэння паталогіяў шчытападобнай залозы.**

Гэтае пагадненне стала адным з асноўных вынікаў візіту беларускай дэлегацыі ў Жэневу, на сесію Сусветнай асамблеі аховы здароўя, якая завяршылася ў мінулую суботу. Акрамя таго, Беларусь выступіла з ініцыятывай правядзення ў нас пад эгідай САЗ міжнароднай медычнай канферэнцыі па чарнобыльскай праблематыцы. Прадстаўнік нашай краіны быў прыняты ў склад Генеральнага камітэта асамблеі. Новым генеральным дырэктарам Сусветнай арганізацыі здароўя была абраная былы прэм'ер-міністр Нарвегіі спадарыня Гру-Харлем Брундтланд.

Дарэчы, з усіх дзяржаваў СНД толькі Беларусь, Расія і Узбекістан мелі права голасу — іншыя не заплацілі свае ўзносы ў бюджэт САЗ.

*БелаПАН*

## Ленінскае імя прымусіла змяніць арыентацыю

**100 гадоў адзначае Бабруйскі машынабудаўнічы завод імя Леніна (БМЗ).**

Праўда, калі завод толькі стварыўся, імя Леніна ён яшчэ не меў, але тым не менш працаваў прыбыткова. Тады ён выпускаў абсталяванне для вінаробчых прадпрыемстваў. Пасля 2-й сусветнай вайны заводу прысвоілі ленінскае імя і пераарыентавалі на помпы і іншую насосную тэхніку. Сёння прадукцыя з Бабруйска ідзе туды, дзе горача, — у Кітай, Егіпет, Індыю ды іншыя краіны.

**Іван ЗАСАДА**

## Назад – у вёску

**Усё больш людзей спадзяюцца знайсці сваё шчасце ў вёсцы, на ўласным кавалку зямлі.**

Аб гэтым сведчаць вынікі акцыі, якую ладзіць ужо ў другі раз Магілёўскі цэнтр занятасці. Летась 16 сем'яў вырашыла змяніць гарадскую прапіску на вясковую, з пачатку гэтага года ўжо 11 сем'яў рыхтуюцца да пераезду. Прычыны ва ўсіх падобныя — заробкі малыя ці нерэгулярныя. А ва ўсіх карані вядуць на вёску, вось яны і спадзяюцца на лепшую будучыню на малой радзіме.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Фермера «раскулачылі»

**Незвычайна апранутага чалавек заўважаны ў цэнтры Мінска. На праспекце Скарыны, на плошчы Незалежнасці, побач з рэзідэнцыяй прэзідэнта можна было бачыць на мінулым тыдні чалавека, загорнутага ў даматкны ручнік з вывяай бусла над страхой.**

Фермер Алесь Косач з Любанскага раёна Мінскай вобласці пратэстуе супраць самаўпраўства чыноўнікаў і судовых выканаўцаў, якія забралі ў яго трактар і аўтамашыну. Аказаўшыся без тэхнікі, гаспадар вымушаны быў спыніць веснавую сяўбу і паехаў шукаць праўду ў Мінск. Ручнік, які ён апранае, калі выходзіць на вуліцу, павінен, на ягоную думку, сімвалізаваць пагрозу, што навісла над родным гняздом. Што гэта за пагроза?

Любанскі суд наклаў на гаспадара акцыянернага таварыства «Айрыс-сервіс» («айрыс» па-англійску — кветка ірыс, якая ў нашым краі здаўна называецца касач) Алеся Косача штраф у памеры 583 мільёны рублёў. Аштрафавалі за тое, быццам фермер парушыў адзін з законаў, згодна з якім юрыдычным асобам забараняецца рабіць разлікі за наяўныя грошы. «Вольны хлебапашац» Косач з пакараннем не згодны. Ён сцвярджае, што аперацыі, за якія яго пакараў суд, рабіў, калі яшчэ не меў статусу юрыдычнай асобы. Колькі ні даказваў Косач сваю праўду ў кабінетах любанскіх чыноўнікаў — нічога не атрымалася. Вынікам стаў візіт судовых выканаўцаў на ягоную сядзібу ва ўрочышчы «Хацінова». У Косача забралі, прычым у ягонай адсутнасць, аўтамабіль ГАЗ-53 і трактар Т-45. Маўляў, у лік пагашэння штрафу.

Зараз гаспадар «Айрыс-сервісу» замест таго, каб сеяць, абівае парогі ў Мінску. Ён ужо пабываў у адміністрацыі прэзідэнта, куды аднёс сваю скаргу, накіраваў ліст генеральнаму пракурору, звярнуўся ў праваабарончыя структуры. Косача двойчы затрымлівалі міліцыянты, але пасля разбіральніцтва адпускалі. Магчыма таму, што з міліцыяй у фермера склаліся своеасаблівыя адносіны: з мінулагодняга ўраджаю ён пастаўляў гарох у мінскія турмы і следчы ізалятар горада Жодзіна. Супрацоўніцтва задавальняла абодва бакі. Косач кажа, што з ім своечасова разлічыліся за ўсе 18 тонаў гароху, якія ён паставіў турэмшчыкам. *«Турмы не тое што гандаль, яны плацяць без затрымак»,* — гаворыць гаспадар «Айрыс-сервісу». Няма прэтэнзіяў да ягонага гароху і ў пакупнікоў. «Прывозь яшчэ!» — казалі яму пасля апошняй здзелкі беларускія турэмшчыкі. Алесь Косач, улічваючы попыт, запланаваў пасеяць сёлета на 20 гектараў гароху больш, чым летась. Але тут забралі тэхніку...

Дарэчы, Алесь Косач патомны земляроб. У 30-я гады быў раскулачаны ягоны дзед, потым быў «мабілізаваны» ў калгас бацька. Цяпер вось не даюць разгарнуцца сыну.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Генерал у гродзенскім касцёле

**Гродна наведаў генерал Ордэна святога Францішка Агастына Гардын.**

Ён адслужыў імшу ў мясцовым францішканскім касцёле, на якую сабралася шмат вернікаў. Некалі францішкане мелі на тэрыторыі Беларусі 26 храмаў, сёння — толькі тры.

Перад тым, як прыехаць да нас, генерал ордэна наведаў Літву, Украіну, Калінінград і Пецярбург.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Гомельская прэса: халодная вясна 98-га

**У Гомелі амаль адначасова зачыніліся мясцовыя газеты «Джэм», «Тэлеінформ» і «Тэлеграф».**

Прычынай стала рэзкае павышэнне расцэнак на друкарскія паслугі і коштаў газетнай паперы. Адначасова знізілася актыўнасць пастаянных спонсараў і рэкламадаўцаў. На мяжы банкруцтва аказалася і фірма «Прэс-экспрэс», якая займаецца рознічным гандлем газетамі. Рэч у тым, што Чыгуначны райвыканкам Гомеля нечакана запатрабаваў па пяць мільёнаў рублёў за кожнае гандлёвае месца. Калі гэты прыклад пераймуць іншыя выканкамы горада, то «Прэс-экспрэс» адназначна пойдзе пад адхон.

Аднак ёсць і адваротны прыклад — у горадзе пачала выдавацца новая незалежная газета «Навіны Палесся плюс», якая, праўда, пакуль мае наклад усяго трыста асобнікаў.

**У.В.**

## Мяняйце чэкі летам

**З 15 чэрвеня ў аддзяленнях Беларусбанка з'явяцца новыя акцыі, якія можна будзе атрымаць у абмен на чэкі «Маёмасць».**

Плануецца, што будуць выстаўленыя акцыі больш як 50-ці прадпрыемстваў на агульную суму ў 14 мільёнаў чэкаў. Апошні раз (пра гэта паведамлялі НАВІНЫ), у аддзяленні Ашчадбанка акцыі паступалі 1 красавіка — на 12 млн. чэкаў. Аднак, нягледзячы на тое, што ў тым спісе былі і дастаткова прывабныя варыянты, уладальнікі чэкаў «Маёмасць» не кінуліся гуляць у прыватызацыйную латарэю: грамадзяне абмянялі на акцыі менш за 900 тысячаў чэкаў.Такім чынам, можна сцвярджаць, што асаблівага даверу да прыватызацыйных праграмаў дзяржавы людзі не маюць.

У сярэдзіне чэрвеня ўладальнікі чэкаў таксама маюць шанцы атрымаць акцыі даволі прывабных прадпрыемстваў, сярод іх 10 прапануюць свае каштоўныя паперы ўпершыню. З ліку рэкамендуюць звярнуць увагу на прадпрыемствы харчовай прамысловасці. Так, ёсць сэнс набыць акцыі цукровых заводаў — Слуцкага цукрова-рафінаднага камбіната, Гарадзейскага цукровага камбіната. Перспектыўным прадпрыемствам лічыцца таксама Мінскі дражджавы камбінат.

З ліку акцыянерных таварыстваў, акцыі якіх ужо раней прапаноўваліся праз Ашчадны банк, эксперты асабліва адзначаюць бабруйскі «Чырвоны харчавік», Гродзенскі дрэваапрацоўчы камбінат, аб'яднанні «Даламіт» і «Гомелькабель».

**Алесь САДОЎСКІ**

## Стары тэатр у Доме палітасветы

**Свае 110-я ўгодкі адзначае ў гэтыя дні Магілёўскі абласны драматычны тэатр.**

Гэта адзін з самых старых правінцыйных тэатраў. Ён быў пабудаваны на ахвяраванні жыхароў колішняга губернскага цэнтра. Найперш грошы давалі багатыя людзі — купцы, фабрыканты, буйныя землеўладальнікі і нават афіцэрскія клубы. У выніку грамадскіх намаганняў на тэатр было сабрана больш як 50 тысячаў рублёў — вялізныя па тых часах грошы. Па ўмовах асноўных фундатараў, тэатр штогод мусіў не менш за 6 спектакляў даваць для бедных бясплатна.

З тых дзён гісторыя тэатра звядала шмат чаго. У савецкі час гарадскія экскурсаводы адзначалі тэатр таму, што ў ім некалі прамаўляў «усесаюзны стараста» Калінін. Але ж на ягонай сцэне выступалі і сапраўдныя славутасці — Шаляпін, Камісаржэўская, Мамант-Дальскі, Давыдаў. Выходзіў на сцэну Рахманінаў. У нашы часы славутыя сёння рэжысёры Мікалай Пінігін і Валерый Маслюк ставілі тут свае спектаклі.

Аднак апошнія амаль 10 гадоў тэатр працуе ў памяшканні былога Дома палітасветы, які слаба адпавядае тэатральным патрэбам. Стары будынак, прызнаны архітэктурным і культурным помнікам агульнанацыянальнага значэння, быў зачынены на капітальны рамонт. Але грошы на яго, у адрозненне ад мінулых часоў, знаходзяцца з вялікімі цяжкасцямі. На ўсю рэстаўрацыю патрабуецца каля 20 мільярдаў рублёў. Публіка ў нас цяпер небагатая, а ўлада больш сродкаў кідае на пампезныя святы. Таму, не зважаючы на шматлікія абяцанкі чыноўнікаў, мала хто верыць, што ў гэтым стагоддзі аматары мастацтва дачакаюцца сканчэння рамонту.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Пад пагрозай будучыня Беларусі

*Здаровых амаль няма*

**У Чэрыкаўскім раёне толькі 370 падлеткаў з 3.870 прызнаныя цалкам здаровымі.**

Гэты раён Магілёўскай вобласці — адзін з тых, што найбольш пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сярод хворых дзяцей расце колькасць тых, каго медыкі прызналі інвалідамі. У раёне такіх каля 20. Толькі за апошні год гэтая лічба вырасла больш чым на 10%.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Лісты ў рэдакцыю

**ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!** Ваша газета ўважліва сочыць за дзейнасцю беларускага прэзідэнта, але адну цікавую падзею вы чамусьці праігнаравалі. Я маю на ўвазе прысуджэнне Аляксандру Лукашэнку прэміі імя Міхаіла Шолахава, якую ён атрымаў напрыканцы красавіка ў Маскве. Хачу нагадаць, што лаўрэатам гэтай прэміі з'яўляецца таксама Радаван Караджыч, які абвінавачваецца міжнародным судом у ваенных злачынствах. Караджычу прысудзілі прэмію Шолахава ў 1994 годзе. Цяпер вось Лукашэнка стаў лаўрэатам...

**Лявон ПЯТРОЎСКІ,** *г.Віцебск*

**У ГАЗЕТАХ Я ПРАЧЫТАЎ** віншаванне Аляксандра Лукашэнкі з нагоды Дня сям'і, які адзначаўся 15 траўня. Прэзідэнт слушна кажа, што «сям'я для чалавека — крыніца цеплыні, якая дае адчуванне паўнаты жыцця», што «моцная сям'я — залог шчаслівай будучыні народа і дзяржавы...» Прачытаў я гэта і падумаў: а які прыклад дае грамадству сам прэзідэнт, чаму ён увесь гэты час жыве без сям'і?

**Андрэй ПАЎЛАЎ,** *бацька трох дзяцей*

**МЕНЯ ВОЗМУЩАЕТ,** что лучших представителей молодежи Беларуси преследуют, избивают, исключают из учебных заведений, а примитивных карьеристов из БПСМ наделяют фантастическими льготами за счет недоедающих рабочих и голодающих пенсионеров. Так ведется планомерная фильтрация интеллекта нации: мусор и нечистоты всплывают наверх, а драгоценный материал — вниз, на дно, чтобы и не видно было. Это уже интеллектуальный геноцид!

**Алесь МИНАК,** *г.Минск*

*ПРАВОСУДИЕ*

# Дело Пупейко: суд откладывается

На 14 мая в Варшавском воеводском суде было назначено слушание дела об экстрадиции Александра Пупейко. Однако накануне, в связи с болезнью судьи, заседание суда было перенесено на 1 июня.

13 мая Александр Пупейко был вызван в варшавскую прокуратуру. Поводом к этому стало обращение белорусской прокуратуры с просьбой допросить Пупейко по представленным белорусскими следственными органами вопросам. Возникшие у белорусских следователей вопросы были вызваны рядом публикаций и интервью Пупейко в белорусской прессе. Белорусский МВД начал искать с ним телефонного контакта, а затем в Польшу были направлены представители белорусских органов. Однако им не удалось застать в Варшаве Александра Пупейко, который выехал в Швейцарию, и допрос мог состояться только 13 мая. Но белорусский бизнесмен отказался до экстрадиционного суда отвечать на обращенные к нему вопросы, хотя, по его словам, у него нет сомнения в решении суда. Сотрудничество с белорусскими следственными органами Александр Пупейко связывает также с двумя условиями: он настаивает, чтобы на родине его перестали считать виновным, а также на том, чтобы ему вернули паспорт, переданный польской прокуратурой белорусскому посольству и отосланный затем в Минск.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

# Наяўнасць піва як паказчык дабрабыту

Сацыялізм ёсць сацыялізм, якім бы «рынкавым» ён ні быў. Як і ў савецкія часы, цяпер у мінскіх гастраномах няма нават выбару піва. Засталося толькі «Жыгулёўскае» (ды і тое не паўсюдна. Ну і яшчэ нейкі «Хакей» (прыдатная, аднак жа, назва для піва: гэта ўсё адно што назваць гарэлку «Фізкультура і спорт» ці цыгарэты «Здароўе»).

У савецкія часы, калі хто забыўся, у крамах і піўбарах таксама прадаваліся толькі 2 гатункі піва: тое ж «Жыгулёўскае» і яшчэ «Ячменны колас». Але звычайна выбару не было і паміж гэтымі двума: скончыцца адзін — пачыналі даваць другі. Відаць, лічылі: піва — яно і ёсць піва, няма чаго тут перабіраць.

У Савецкім Саюзе можна было існаваць і нават адчуваць сябе няблага — але для гэтага трэба было быць вельмі неперабарлівым чалавекам. Насіць і есці, што даюць, ды дзякаваць, што наогул нешта даюць. На гэтым жа будаваўся і «ненавязлівы» савецкі сервіс з яго неад'емнымі атрыбутамі — хамствам, неахайнасцю, пагардай да кліентаў і г.д.

Цяперашнія беларускія ўлады бяруць узорам «узровень савецкіх часоў па асноўных параметрах эканомікі», якога яны намагаюцца дасягнуць. І, здаецца, намаганні прыносяць вынікі. Піва — гэта толькі індыкатар агульнага стану. Адных прадуктаў у крамах няма зусім, другія трэба доўга шукаць і выстойваць чэргі, на трэція ўводзяцца нормы продажу ў адны рукі. Усё правільна: на «ўзроўні савецкіх часоў» трэба быць непераборлівым. Курэй няма — падумаеш, бяда! Купляйце іншае мяса і кажыце «дзякуй» уладзе, што хоць якое ёсць, хутка ніякага не будзе.

Але я не хачу на «ўзровень савецкіх часоў». Я хачу піць тое піва, якое мне падабаецца, а не тое, што маецца ў дадзены момант у нашым заняпалым гандлі. Калі мне хочацца курацінага і варанай каўбасы, дык мне патрэбная магчымасць есці менавіта гэтыя прадукты, а не ялавічыну і вяндліну. Я хачу набываць мукі і цукру столькі, колькі мне трэба, а не колькі мне з вялікай ласкі пажадаюць прадаць.

Калі нам кажуць, што эканамічная сітуацыя стабілізуецца — дык на ўласныя вочы мы бачым, што гэта слушна хіба толькі ў тым, што краіна стабільна коціцца ўніз. Расце, відаць, толькі адзін нейкі «валавы ўнутраны прадукт» — усё астатняе відавочна падае. Але няхай тады мне растлумачаць, дзе я магу купіць гэты «прадукт» і што мне з ім рабіць.

У святле ўсяго гэтага я прыходжу да адзінай магчымай высновы: не можа быць харошай улада, пры якой такое дрэннае жыццё. Не можа быць правільным шлях, калі з кожным месяцам становішча не паляпшаецца, а толькі пагаршаецца.

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

*Эстония*

# Президент созывает Следственную комиссию

**Президент Эстонии Леннарт Мери заявил о создании международной комиссии по расследованию преступлений против человечности, совершенных в Эстонии в 1939-1991 годах.**

Л.Мери отметил, что главной задачей Следственной комиссии является выявление преступлений, совершенных против человечности во время правления здесь нацистского и советского оккупационных режимов. К работе комиссии привлекаются эстонские и зарубежные общественные деятели, а также представители негосударственных организаций.

Президент от имени государства заверил, что каждый проживающий в Эстонии гражданин этой страны, виновный в преступлениях против эстонцев или иных народов, совершенных в годы нацистского или советского режимов, предстанет перед судом и будет наказан в судебном порядке.

Л.Мери отметил, что толчком для создания комиссии стали события последнего времени в Балтии. Они показали, что круги, не заинтересованные в стабильности в странах Балтии, в быстром развитии здесь демократии, способны умело манипулировать мрачными и серыми пятнами в нашем прошлом.

**В.ПЕТРОВ**

# Рэкорды Папы Рымскага



**Учора Папа Рымскі Ян Павел II адзначыў сваё 78-годдзе. А ў пятніцу ён установіць рэкорд: стане Папам, які даўжэй за ўсіх займаў Святы пасад, адсунуўшы Пія XII на 2-е месца.**

Зрэшты, Яну Паўлу II ужо належыць цэлы шэраг папскіх рэкордаў. Выбраны Папам у кастрычніку 1978 г., ён стаў першым кіраўніком каталіцкага касцёла славянскага паходжання. На ліку цяперашняга Папы 210 візітаў, пры ім было зроблена 279 канானізацыяў, ніхто не выступаў з такой колькасцю прамоваў, як Ян Павел II. Але, з другога боку, ніхто з былых пантыфікаў не ляжаў столькі ў шпіталі — за Янам Паўлам II нават замацаваныя асобныя апартаменты ў клініцы.

На лёс Яна Паўла II выпала шмат выпрабаванняў — і маральных, і фізічных. Як сведчаць ягоныя супрацоўнікі, Папа прымае блізка да сэрца пакуты свету, і такія падзеі, як нядаўняе забойства камандзіра швейцарскіх гвардзейцаў Алоіса Эстэрмана або — беспрэцэдэнтны выпадак у гісторыі — самагубства пакістанскага біскупа ў знак пратэсту супраць ісламскіх законаў.

Тым не менш, Ян Павел II рыхтуецца асабіста адкрыць урачыстасці двухтысячнага года і мае намер асабіста павесці за сабою хрысціянаў у трэцяе тысячагоддзе, як гэта яму наказаў ягоны духоўны айцец, польскі кардынал Стэфан Вышыньскі. У бліжэйшых планах Папы — паездкі ў Турын, дзе цяпер знаходзіцца Плашчаніца Гасподняя, і ў Аўстрыю, а потым — у Мексіку, ЗША і Польшчу. Вывучаюцца магчымасці візітаў у Турцыю, Лівію і Ірак.

У Беларусь пантыфік за дваццаць гадоў кіравання касцёлам так і не прыехаў, затое на мінулым тыдні ў Гомелі можна было пазнаёміцца з пісьменніцкім талентам Папы. Яшчэ ў тыя часы, калі ён быў вядомы пад імем кардынала Караля Вайтылы, ён напісаў п'есу «Выпраменьванне бацькоўства». У Гомелі на фестывалі «Славянскія тэатральныя сустрэчы», які праходзіў з 14 па 17 траўня, гэты спектакль паказвала кіеўская майстэрня тэатральнага мастацтва «Сузор'е». Папярэднікі Яна Паўла II на Святым пасадзе драматургічным талентам не вызначаліся.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Официально заявляем...

В газете НАВІНЫ 4 марта 1998 года была опубликована статья журналиста Александра Старикевича «Как союзник грабит Россию». В статье указано, что наряду с компанией «Идигов продукт», государственным предприятием «Торгэкспо», департаментом внешнеэкономических связей Белорусского экзархата Белорусское общество глухих занимается торговлей таможенными льготами, в частности, при осуществлении операций с аудио- и видеоаппаратурой, которая на территории Беларуси растаможивается по льготным расценкам и в дальнейшем направляется для реализации в Российскую Федерацию, что причиняет ущерб ее бюджету.

Официально заявляем, что эти сведения не соответствуют действительности и унижают честь, достоинство и деловую репутацию нашего Общества. Белорусское общество глухих, являясь добровольной общественной организацией, созданной в 1931 году, защищает и содействует реализации прав граждан с нарушением слуха, их интеграции в современном обществе. Для решения этих уставных задач осуществляет законную деятельность, пользуясь установленными законом льготами в области налогообложения. Торговлей налоговыми льготами никогда не занималось, также не занималось производством и реализацией аудио- и видеоаппаратуры, включая торговую, торгово-закупочную и посредническую деятельность как на территории Республики Беларусь, так и за ее пределами.

*Председатель* **С.П.САПУТО**

Общество слепых Республики Беларусь, правильно именуемое Белорусское товарищество инвалидов по зрению (БелТИЗ), за все время своего существования с 1924 г. по настоящее время ни изготовление, ни поставку, ни куплю-продажу видеотехники физическим и юридическим лицам на территории Республики Беларусь, бывшего Советского Союза, стран ближнего и дальнего зарубежья не осуществляло и не осуществляет и никогда не имело и не имеет в настоящее время лицензий на этот вид деятельности. Сообщение об этом в статье «Как союзник грабит Россию» не соответствует действительности.

*Председатель правления БелТИЗ* **А.И.НЕТЫЛЬКИН**

# Галоўны прынцып – экалогія

**Экалагічныя праблемы застаюцца асноўнай прычынай хваробаў і смерці ў многіх рэгіёнах свету, нягледзячы на значнае паляпшэнне здароўя ў цэлым за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў.**

Такую выснову робяць эксперты ААН у дакладзе «Сусветныя рэсурсы. 1998—1999 гады». Яго падрыхтавалі сумесна Інстытут сусветных рэсурсаў, Праграма ААН па навакольным асяроддзі (ЮНЕП), Праграма развіцця ААН (ПРААН) і Сусветны банк.

Хваробы, выкліканыя забруджваннем навакольнага асяроддзя, штогод становяцца прычынай 11 млн. выпадкаў дзіцячай смяротнасці ў найбяднейшых раёнах свету. Пагроза здароўю, абумоўленая экалагічнымі прычынамі, мае месца і ў развітых краінах. Як адзначаецца ў дакладзе, толькі ў ЗША каля 80 мільёнаў чалавек сутыкаюцца з такім узроўнем забруджвання паветра, што гэта можа нанесці шкоду здароўю. У Кітаі каля 2 мільёнаў чалавек паміраюць штогод па прычыне забруджвання вады і паветра.

Каля 100 дзяржаваў, у тым ліку Беларусь, дагэтуль выкарыстоўваюць бензін з утрыманнем свінцу, падвяргаючы сваіх грамадзянаў працягламу атручванню, якое, як паказалі даследаванні навукоўцаў, выклікае ўстойлівае паражэнне мозгу. Ачышчэнне нафтапрадуктаў ад свінцу, а ў перспектыве забарона на выкарыстанне этыліраванага бензіну, на думку медыкаў, у некалькі разоў скарацілa б рызыку для здароўя.

У дакладзе прыводзяцца і іншыя прыклады, як тэхніка-экалагічныя праекты маглі б прынесці значную карысць для здароўя людзей, калі іх уключыць у доўгатэрміновыя праграмы развіцця эканомікі і грамадства. *«Стратэгія аздараўлення насельніцтва, пабудаваная на прынцыпах экалогіі, павінна стаць прыярытэтам для ўсіх краінаў у XXI стагоддзі»,* — сцвярджаецца ў справаздачы ААН.

*БелаПАН*

## П'юць, бо галодныя

**Рэзка вырасла колькасць здарэнняў на дарогах Магілёўскай вобласці, прычынай якіх стала п'янства.**

Міліцыя рапартуе, што з пачатку года супрацоўнікамі ДАІ затрымана каля 800 нецвярозых. Гэтая лічба ўдвая перавышае аналагічны паказчык мінулага года. Цікава, што некаторыя затрыманыя тлумачылі свой стан такім чынам: «А што ж яшчэ ў краме купіш, акрамя гарэлкі?..»

**Іван ЗАСАДА**

## Лідэр палякаў застаўся без правоў

**Старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін застаўся без вадзіцельскіх правоў.**

Непадалёк Зэльвы ён абагнаў аўтафургон і павялічыў хуткасць з 60 да 80 км. З хмызоў выскачыў міліцыянт, спыніў «ліхача» і выпісаў яму штраф на два мінімальныя заробкі. Паколькі паўмільёна рублёў у шафёра не аказалася, інспектар забраў правы. Гавін ехаў на асабістым «Фіяце», але па службовых справах — у Баранавічы, дзе існуе Дом палякаў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## «Чэкіст» браў хабар на мытні

**У Гродзенскім КДБ пярэпалах: арыштаваны ліпавы чэкіст.**

Ім аказаўся супрацоўнік мясцовай мытні. Прадстаўляючыся супрацоўнікам КДБ, ён браў хабар з перагоншчыкаў аўтамабіляў, якія дзякуючы гэтаму плацілі на мяжы меншую пошліну за растаможванне.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Смерць на рэйках

**З пачатку года на Гомельскай чыгунцы зарэгістравана 7 смяротных выпадкаў.**

А ўвогуле няшчасныя выпадкі на Беларускай чыгунцы адбываюцца ледзь не кожны дзень, у асноўным у вячэрні час на станцыях і перагонах. Ахвярамі, часцей за ўсё, становяцца маладыя людзі, кожны другі з іх — у нецвярозым стане. Летась у нашай краіне на рэйках загінулі 259 чалавек, у тым ліку 13 дзяцей.

**Алена НЕСЫН**



*Не даехаў...*

ЭКАЛОГІЯ

## Хвароба Дняпра

**Нягледзячы на вялікую колькасць прыродаахоўных дакументаў, Дняпро — адна з галоўных рэкаў Беларусі — катастрафічна забруджаны.**

Паводле звестак Магілёўскага цэнтра метэаралогіі, месцамі канцэнтрацыя нафтапрадуктаў у вадзе перавышае гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі (ГДК) у 2-9 разоў, злучэнняў азоту пад Шкловам — да 25 разоў. Перавышэнні ГДК жалеза складаюць ад 3 да 20 разоў, фенолу — да 10 разоў.

Нягледзячы на ўсе спробы прыродаахоўных службаў супрацьстаяць забруджванню, гэта ўдаецца слаба. Галоўныя парушальнікі — буйныя прадпрыемствы і калгасы. Штрафы, што выстаўляюцца ім, праблемы не вырашаюць — грошай няма ні на штрафы, ні на рамонт ачышчальных збудаванняў.

А людзі працягваюць лавіць у Дняпры рыбу. Ці надоўга хопіць?

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Незвычайны гарэм на Прыпяці

**Спецыялісты нацыянальнага парку «Прыпяцкі» ажыццяўляюць праект па вяртанні ў Прыпяць судака — каштоўнай промыславай рыбы.**

Побач з пасёлкам Славінск Петрыкаўскага раёна ў затоцы Мургі пабудавалі 20 плывучых садкоў і ў кожны запусцілі па тры самцы і па адной самцы судака. Рыбы ўжо аднерасціліся, неўзабаве з'явяцца малькі. Спецыялісты лічаць перспектывы праекта неблагімі.

**У.В.**

## Чым больш сквераў – тым чысцей

**Магілёўскі маладзёжны экалагічны клуб «Ноосфера» распачаў праект стварэння сквераў пад назвай «Надзея».**

Маладыя людзі, якія аб'ядналіся ў клуб, лічаць, што абараняць прыроду трэба канкрэтнымі і практычнымі крокамі. Калі дзяржава чагосьці не робіць, толькі самі жыхары горада могуць абараніць сваё права на чыстае паветра. І менавіта чысціня паветра — адна з найгалоўных экалагічных праблемаў Магілёва. Абласны цэнтр здаўна ўваходзіць у сумную дзесятку самых забруджаных гарадоў былога Савецкага Саюза.

У першым скверы высаджана ўжо каля 200 саджанцаў.

**Іван ЗАСАДА**

НЕДАРЭЧНАСЦЬ

## Як нябожчык у падатковую інспекцыю хадзіў

**Амаль 2.000 недзяржаўных прадпрыемстваў і больш за 3.000 прыватных прадпрымальнікаў Магілёва страцілі магчымасць займацца бізнесам і ліквідуюцца.**

Кампанія па перарэгістрацыі цягнецца ўжо некалькі гадоў. Нядзіўна, што пры гэтым здараюцца і «памылкі». Кіраўнік адной з магілёўскіх фірмаў памёр яшчэ ў 1996 годзе. А па дакументах падатковай інспекцыі, у 1997 годзе нябожчык ўручыў пазоў у інспекцыю і камерсант нібыта ўласнаручна распісаўся, што атрымаў дакумент. Гэтую зусім не смешную недарэчнасць выкрылі толькі нядаўна.

**Іван ЗАСАДА**

## Цяляты з Чарнобыля

**Цяля з дзвюма галовамі нарадзілася на ферме калгаса «Ленінскі шлях» Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці.**

Галоўны ветэрынарны ўрач раёна В.Юрчанкоў сведчыць, што генетычныя мутацыі сярод свойскіх жывёл на пацярпелых ад чарнобыльскай трагедыі тэрыторыях не рэдкасць. Так, нядаўна нарадзілася цяля зусім без вантробаў.

А ўвогуле ў раёне вельмі часта нараджаюцца недаразвітыя цяляты — па 10-12 кілаграмаў замест 25-40 у норме. «Рэкардсменам» стала цяля вагою ўсяго 5 кг, што з'явілася на свет у саўгасе «Хойніцкі». Як правіла, цяляты-мутанты паміраюць вельмі хутка.

**М.Б.**

*Здароўе*

## На дыябет хварэюць маладыя

**У Гомельскай вобласці колькасць хворых на цукровы дыябет павялічваецца ў сярэднім на 1.000 чалавек у год. Сёлета на ўліку ў эндакрынолагаў знаходзіцца больш за 19 тысячаў хворых.**

Гэтая невылечная хвароба, небяспечная ўскладненнямі на зрок, ныркі, сасуды, апошнім часам значна памаладзела. Сярод хворых — 150 дзяцей да 14 гадоў і каля 80 падлеткаў. Для іх у вобласці працуюць 7 спецыяльных школаў, дзе хворых на цукровы дыябет дзетак з малеснтва вучаць змагацца з цяжкай хваробай.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

## Базары хочуць зачыніць

**У Гомелі санітарна-эпідэміялагічная служба збіраецца забараніць гандаль мясам, рыбай, марожаным, малаком і кандытарскімі вырабамі на рынках.**

Рэч у тым, што санітарны стан гарадскіх базараў не адпавядае нават мінімальным санітарным патрабаванням. У прыватнасці, ад дырэктара Цэнтральнага рынка патрабуюць правесці капітальны рамонт, устанавіць так званыя халодныя прылаўкі для прадуктаў, якія хутка псуюцца.

А між тым з надыходам цяпла ў горадзе назіраецца ўздым захворванняў на сальманелёз, пачасціліся харчовыя атручванні. Санітарныя ўрачы напрамую звязваюць гэта з рынкамі. І сапраўды: у магазінах ужо даўно пуста, а базар для многіх стаў адзіным месцам, дзе яшчэ можна купіць прадукты.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



## Даты і лёсы

### *19 траўня*

**1657.** У Лондане пачала выходзіць першая газета, цалкам складзеная з прыватных аб'яваў. Продак нашай «Из рук в руки» меў назву *Public Advertiser.*

**1802.** Напалеон заснаваў самую вядомую ў свеце ўзнагароду — ордэн Ганаровага легіёна.

**1948.** Кангрэс 10 краінаў Заходняй Еўропы ў Гаазе (Нідэрланды) выказаўся за ідэю стварэння ў перспектыве Еўрапейскага Саюза. Згодна з рэзалюцыяй Кангрэса, у 1949 г. у Страсбургу былі створаны Савет Еўропы.

**1982.** Знакамітая італьянская кінаактрыса Сафі Ларэн трапіла на месяц у турму: яна ўхілялася ад падаткаў.

**1987.** На працы памёр дзяржаўны служачы ўрада Вялікабрытаніі — паласаты кот Ўілберфорс. На працягу 14 гадоў ён змагаўся з мышамі ва ўрадавай рэзідэнцыі на Даўнінг-стрыт; за гэты час паспелі змяніцца 4 прэм'ер-міністры.

### *20 траўня*

Дзень абраза Маці Божай Жыровіцкай. Паводле падання, у гэты дзень у 1494 г. пастухі знайшлі яго на грушы, што расла ў лясным гушчары.

**1498.** Еўрапейцы ўпершыню дасягнулі па моры берагоў Індыі. Партугальцы на чале з капітанам Васка да Гама дамовіліся пра ўсталяванне гандлёвых адносінаў і вярнуліся на радзіму на караблях, наладаваных перцам. У гэты ж дзень у 1506 г. памёр у галечы вялікі падарожнік, які таксама шукаў марскі шлях у Індыю, але замест таго адкрыў для еўрапейцаў Кубу, Ямайку, Антыльскія астравы ды іншыя землі, — іспанскі мараход Хрыстафор Калумб.

**1873.** Нямецкі эмігрант Леў Штраус заснаваў у Сан-Францыска фабрыку па пашыве штаноў для золаташукальнікаў. Пазней яна стала сусветна вядомай джынсавай фірмай *Levi Strauss*. Сёлета з нагоды 125-гадовага юбілею кампаніі 4 тысячы амерыканак, якіх завуць Джын, Джына або Джэнет, атрымаюць у падарунак сапраўдныя джынсы «Лівайз».

**1895.** Вярхоўны суд ЗША вырашыў, што падаходны падатак з грамадзянаў супярэчыць канстытуцыі краіны.

**1915.** Нарадзіўся ізраільскі палкаводзец і археолаг Мошэ Даян. Пад ягоным кіраўніцтвам ізраільскія войскі ў Шасцідзённай вайне 1967 г. захапілі Ерусалім.

**1943.** У ваколіцах Бягомля, Лепеля, Плешчаніц і Халопенічаў фашысты пачалі буйнейшую карную аперацыю супраць партызанаў пад назвай «Котбус». Загінула каля 10 тысячаў мясцовых жыхароў. Падчас 28 падобных аперацыяў у 1942—1943 гг. карнікі забілі больш за 70 тысячаў чалавек.

**1980.** Жыхары франкамоўнай канадскай правінцыі Квебек прагаласавалі на рэферэндуме супраць утварэння незалежнай дзяржавы. Праз паўтара дзесяцігоддзя прыхільнікі незалежнасці Квебека на паўторным рэферэндуме зноў прайгралі.

**1980.** У Мінску адчыніўся крыты Камароўскі рынак.

### *21 траўня*

**428 г. да н.э.** Нарадзіўся старажытнагрэцкі філосаф Платон. Каля 385 г. да н.э. ён заснаваў філасофскую школу, якую назвалі Акадэмія (мясцовасць, дзе яна знаходзілася, лічылася пад апекай старажытнага героя Акадэма). Многія з вучняў Платона сталі вядомымі філосафамі, сярод іх Арыстотэль і інш. Акадэмія існавала больш за 900 гадоў, пакуль у 529 г. візантыйскі імператар Юстыніян не зачыніў яе, як рассаднік паганскай мудрасці.

Лічыцца, што ў гэты ж дзень, 21 траўня, Платон памёр. А яшчэ антычная традыцыя лічыць, што ў гэты дзень на востраве Дэлас нарадзіўся бог Апалон.

**1471.** Нарадзіўся буйнейшы нямецкі мастак Альбрэхт Дзюрэр. У 13 гадоў з дапамогай люстэрка ён стварыў уласны партрэт — першы аўтапартрэт у еўрапейскім мастацтве.

**1797.** Нарадзіўся вядомы мінскі музыкант Дамінік Стэфановіч, першы настаўнік кампазітара Станіслава Манюшкі. З 1820 г. на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў быў дырыжорам гарадскога духавога аркестра, з 1856 г. ладзіў і сімфанічныя канцэрты.

**1921.** Нарадзіўся навуковец Андрэй Сахараў, які быў галоўным распрацоўшчыкам першай у свеце савецкай вадароднай бомбы. Сусветную славу Сахараву прынесла, аднак, не гэта, а бескампрамісная барацьба за правы чалавека ў «імперыі зла». Па адзін бок «жалезнай заслоны» Сахарава ўзнагародзілі Нобелеўскай прэміяй міру, а па другі — адправілі на 6 гадоў у ссылку.

**1943.** Падпольшчыкі разам з партызанамі абрабавалі мінскую аптэку па вул.Мопраўскай, 70 (цяпер Камуністычная) і вывезлі ўсе медыкаменты ў лес.

**1967.** Падчас пажару ў брусельскім супермаркеце *L'Innovation* загінулі 322 чалавекі.

**1979.** Элтан Джон першым з заходніх рок-зорак даў канцэрт у Савецкім Саюзе. Свой выступ у Ленінградзе ён скончыў песняй з рэпертуару *The Beatles — Back to the USSR* («Назад у СССР»).

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1189 Нумар падпісаны ў друк 18.05.98 (15:00) Наклад — 19.370